


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

24 жніўня 2001 года

№ 34 (331)
Выходзіць па пятніцах

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Тройчы студэнтка

МЯДЗЕЛ. Выпускніца Крывіцкай СШ **Мая Мумен** паступіла адразу ў тры вышэйшыя навучальныя ўстановы: педагагічны, тэхналагічны універсітэты і політэхнічную акадэмію.

З іх выбрала тэхналагічны універсітэт, спецыяльнасць інжынер-эканаміст. Лічыць, што гэта перспектыўная прафесія. Мая і школу завяршыла з залатым медалём, і ў БДТУ, гаворыць, будзе імкнуцца вучыцца на «пяцёркі».

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Кабель будзе ў кожным доме

АСТРАВЕЦ. Чакаецца, што напрыканцы года жыхары райцэнтра змогуць глядзець тэлеперадачы з дапамогай сістэмы кабельнага тэлебачання. Аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі і смаргонскае ЗАТ "Оксна" рыхтуюць цяпер дакументацыю. На пачатку вяшчання астравецкага кабельнага ТБ будзе весціся ўстойлівы прыём чатырох каналаў, а затым іх колькасць павялічыцца да адзінаццаці. "Завязаныя на кабелі", у першую чаргу, будуць жыхары мікраёна "Валадарскага".

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Беразінскае прыгажэе

МАЛАДЗЕЧНА. Заўтра ў Беразінскім пройдзе штогадовае свята мястэчка. З гэтай нагоды поўным ходам мінулыя два тыдні ішло добраўпарадкаванне тэрыторыі.

Старшыня Гарадзілаўскага сельсавета **Аляксандр Грыцук** расказаў, што сёлетняе свята будзе больш маштабнае. Актыўна гэтаму пасадзейнічалі райвыканком, Беразінская і Чысцінская ЖКГ, калгас "Гарадзілава", ёсць нават некалькі спонсараў.

У ліку іншага планавалася пачысціць парк, магчыма, расшырыць рынак.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

### Скаўты прыбралі парк у Будславе

МЯДЗЕЛ. Амаль тыдзень былі ў Будславе скаўты з Вілейкі ды Крупак. Летнік іхні быў у вёсцы, каля рэчкі Сэрвач. Скаўты намагалі добраўпарадкаваць тэрыторыю каля касцёла, прыбралі парк каля яго.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Падарункі да 100-годдзя

МЯДЗЕЛ. **Алене Анкіп** з вёскі Крапіўна споўнілася ў жніўні сто. Нарадзілася яна, як сама кажа, на Ілллю. Мае бабуля яшчэ добрую памяць, песень ведае шмат, прыпевак. З нагоды юбілею наведаліся да яе і ўручылі падарункі прадстаўнікі Дзягільскага сельсавета, аддзела сацабароны райвыканкома.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Лукашэнка не прыехаў

ВІЛЕЙКА. Прыезд **Аляксандра Лукашэнкі** ў райцэнтр, які планаваўся на сераду, не адбыўся. Прычынай называецца занятасць прэзідэнта. Дату магчымага прыезду аднеслі на нявызначаны тэрмін.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Дапамога ад выканкома

МАЛАДЗЕЧНА. Гарвыканком акажа матэрыяльную дапамогу жыхарам горада, якія пацярпелі ў выніку лівеню, што прайшлі ў канцы ліпеня. Спецыяльная камісія абследавала пацярпелую маёмасць. У складзеных актах вызначаны кошт урону. 54 чалавекі атрымаюць дапамогу ад 15 да 184 тысяч рублёў. Агульная сума дапамогі склала 2,439 мільёна рублёў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 25 жніўня

Мінск
8 – 13°C (уначы)
19 – 23°C (удзень)



Вільня
16°C (уначы)
24°C (удзень)



Нядзеля, 26 жніўня

Мінск
9 – 15°C (уначы)
18 – 24°C (удзень)



Вільня
14°C (уначы)
23°C (удзень)



# У школу не пусцілі



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

Вучні ідуць у Вілейскую СШ №5. Іх сюды прапускаюць свабодна.

**ВІЛЕЙКА. Адгадайце "загадку": што такое школа? Дырэктар СШ №5 Аляксандр Доўбышаў лічыць, што гэта ўстанова закрытага тыпу. З'яўленне тут любых пабочных асоб мусіць адбывацца толькі з дазволу дырэктара.**

У рэдакцыю патэлефанавала настаўніца гэтай школы **Алена Усціновіч** і сказала, што ў яе класе цячэ дах. І гэта нягледзячы на тое, што будынак новы (яму 3 гады). Бацькі вучняў адрамантавалі клас за свой кошт, але столь працякае, як і раней.

У гэтым класе мы з настаўніцай пабылі з паўгары хвіліны. Ён сапраўды адрамантаваны, толькі на столі мокрая пляма, а па задняй сцяне пайшлі расколіны. Неўзабаве ў клас імкліва ўвайшоў дырэктар і запрасіў нас у прыёмную. Там папрасіў дакументы:

– З якой мэтай вы прыехалі: зрабіць добрую справу, мне дапамагчы ці вырашыць праблемы школы?

– Праблемы школы вырашаем не мы. Мы хацелі б расказаць пра канкрэтнае памяшканне канкрэтнай школы.

– Ці ведаеце вы, што школа – гэта ўстанова закрытага тыпу? І вы без папярэджання ўварваліся ў маю рабочую прастору. А з'яўленне пабочных асоб павінна быць толькі з майго дазволу. Тое, што я дазваляю гуляць па школе такім асобам, як вы, асабліва перад выбарамі, з майго боку, як мінімум, злачынна. Сёння я заняты, у школе запланаванае мерапрыемства (пазней прыехала праверка з раённага аддзела адукацыі – аўт.). Таму папрашу вас пакінуць школу. У іншы час можаце да мяне патэлефанаваць, я адкажу на любыя пытанні.

Мы з класным кіраўніком Аленай Усціновіч выйшлі на прыступкі школы. Да нас далучыліся намеснік дырэктара школы па пачатковых класах **Святлана Алянцэвіч** і намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце **Тамара Рогач**.

Выбраныя выказванні людзей, якія працуюць у школе.

Тамара Рогач:

– Наша школа самая адсталая ў Вілейцы. Метадычнай базы ў школе ніякай няма. Усё прыносім з дому ці купляем за свае грошы. Зразумела, з літаратурай праблемы ёсць ва ўсіх школах, але іншыя жывуць на старых запасах, у нас жа і іх няма.

Святлана Алянцэвіч:

– Цяперашні будынак школы пачалі будаваць напачатку 90-х. Будынак доўгі час стаяў без нагляду, і 3 гады таму яго дабудавалі літаральна за некалькі дзён. Туды і перанеслі СШ №5.

Алена Усціновіч:

– Не абышлося без недапрацовак – працякае дах. Наш клас самы аварыйны ў школе. Акрамя таго, што на галовы дзецям капае вада, у нас не працуюць разеткі. Калі ідзе дождж, то цякуць сцены і ў іншых класах.

Заканчэнне на 2-й стар.

■ СТО ВЫПАДКОВЫХ ТЭЛЕФАНАВАННЯЎ



### Каго з кандыдатаў у прэзідэнты вы ведаеце?

**МАЛАДЗЕЧНА. Чарговае тэлефоннае апытанне выявіла, што чацвёрку кандыдатаў у прэзідэнты ведаюць толькі 14 чалавек. Хто-ніхто ўпэўнена называў М. Чыгіра, таму ў выніку атрымалася пяцёрка. Хаця рэальна пасля зняцця С. Домашам сваёй кандыдатуры (на карысць адзінага кандыдата У. Ганчарыка) прэтэндэнтаў засталося трое.**

Ужо тройку, якая складалася з А. Лукашэнкі, У. Ганчарыка, С. Домаша ці М. Чыгіра, назвалі 5 чалавек.

А за тое, што кандыдатаў засталося толькі двое (А. Лукашэнка і У. Ганчарык ці С. Домаш), гатовыя былі пакласціся 14 чалавек. Усе, заўважу, нічога не чулі пра С. Гайдукевіча, які, тым не менш, упэўнена заяўляе пра сваю будучую перамогу.

Не асабліва здзіўляе, што дзеючага прэзідэнта ведаюць ажно 43 чалавекі з апытаных, бо "іншых не існуе". БТ і дзяржаўная прэса ўпарта працуюць на імідж аднаго.

Астатніх «былых», у тым ліку, З. Пазняка, С. Калякіна і Л. Сініцына з цяжкасцю ўспаміналі 2–3 чалавекі. Людзей, якія не цікавяцца палітыкай, аказалася 18.

**Таццяна СЕМАШКЕВІЧ.**

■ СУСТРЭЧЫ

## Перспектывы горада

**МАЛАДЗЕЧНА. 16 жніўня на "Электрамодулі" адбылася сустрэча работнікаў прадпрыемства і жыхароў 6-га мікрараёна з кіраўніцтвам Беларускай чыгункі (у тым ліку, намеснікам начальніка Уладзімірам Барысюком – Віктару Рахманько ў апошні момант давялося адмовіцца ад паездкі). Былі таксама старшыня гарвыканкома М. Чурсін, міжрайпракурор Г. Вештарт, начальнік ГРАУС С. Кухарчык, дырэктар «Маладзечнагандлю» М. Вінікаў, іншыя.**

Ля мікрафона У. Барысюк апавядаў пра амаль "бяспахмурнае неба" над беларускай чыгункай. З размовы вынікае, што на сёння не існуе ніякіх перашкод для здаровага развіцця рэйкавага арганізма. Работнікі чыгункі спраўна атрымліваюць штомесяц (у пераліку), у сярэднім, $124.

Маладзечанцам паабяцалі 30 жніўня падарыць адзін з н[illegible]прыгажэйшых на мінскім [illegible]рамку прыпынак "Фестыва[illegible]ьны". А вось на электрыфікацыю чыгункі да Смаргоні ў бліжэйшы час нестае рухомага электрыфікаванага саставу.

Мікалай Чурсін паабяцаў, што праз год у шостым мікраёне будзе адкрытая гімназія. Да 1 ліпеня 2002 года дабудуецца Дом культуры.

– Стотысячнаму гораду патрэбны добры спартыўны комплекс, – зазначыў старшыня гарвыканкома. – Такое задавальненне таксама хутка стане рэальнасцю (яго мяркуецца размясціць насупраць «Электрамодуля» - рэд. ).

**Вольга КАСЯКОВА.**

■ КАМЕНТАРЫЙ «РГ»

# Попыт і цэны растуць

**У параўнанні з летам мінулага года прапанова на рынку арэнды жылля зменшылася, попыт жа ўзрос, што прывяло да прыкметнага павышэння ставак арэнды на любыя кватэры. Асабліва моцна падаражэлі пакоі і 1-, 2-пакаёвыя кватэры. У некаторай ступені, гэта звязана з ростам колькасці іншагародніх студэнтаў у камерцыйных ВНУ (тычыцца толькі сталіцы).**

У сярэдніх гарадах рост цэнаў абумоўлены проста зніжэннем прапановы і рэзкім падаражэннем рамонту – наўрад ці захочацца здаваць аднапакаёвую кватэру за 15 долараў, каб праз паўгода рабіць рамонт, бо паклейка шпалераў і замена сантэхнікі абыдуцца даражэй.

Аказваецца, попытам на арэнду карыстаюцца не толькі кватэры. Хтосьці з вельмі "крутых" хацеў наняць катэдж у Мінску па цане да 6000 долараў у месяц. Многія жадаючыя хацелі наняць на 1–2 месяцы пад часовае жыллё дачу, аднак прапаноў не было, заказы засталіся нявыкананыя.

Апошні часам аператары рынку нерухомасці адзначаюць устойлівы попыт на 1- і 2-пакаёвыя кватэры ў дамах, што будуюцца. Яшчэ год таму сітуацыя на рынку кватэр характарызавалася нястрымным падзеннем цэнаў на фоне росту прапановы пры недастатковым попыце. Цэны зніжаліся аж да сабекошту будаўніцтва, а на другасным рынку маглі і перакрочыць гэты ўзровень.

Але ўжо з восені мінулага года стала зразумела, што далейшага падзення цэнаў не будзе, яны пачынаюць расці.

Сказалася змяншэнне льготнага крэдытавання, высокі ўзровень выдаткаў па абслугоўванні нherльготных крэдытаў на набыццё жылля і рост цэнаў у будаўніцтве, што вымусіла частку патэнцыяльных пакупнікоў адмовіцца ад набыцця новага жылля.

Аднак у выніку ўзмацнення дзеяння тэндэнцыі па зніжэнні дабрабыту насельніцтва, тэндэнцыя росту цэнаў наўрад ці захаваецца працяглы час.

Звычайна лета характарызуецца падзеннем цікавасці патэнцыяльных пакупнікоў і зніжэннем актыўнасці на рынку нерухомасці. Аднак сёння рынак захоўвае актыўнасць на высокім узроўні – прапанова ў 3–4 разы перавышае попыт на кватэры, што вядзе да ўзмацнення дыктату пакупніка.

Найбольшым попытам, як звычайна, карыстаюцца 1-пакаёвыя кватэры. У параўнанні з веснавым узроўнем, усе кватэры сталі больш даступныя – у сярэднім, цэны зменшыліся на 500 долараў. Цэны на танныя кватэры паступова павышаюцца, а на дарагія, наадварот, зніжаюцца. Розніца паміж цаной прапановы і цаной попыту скарачаецца і да лета дасягнула свайго мінімальнага значэння – 8%. Гэта сведчыць пра тое, што торг магчымы.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# Прадпрымальнікі і «вертыкаль» дамаўляюцца аб кампрамісе

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду прайшла сустрэча адміністрацыі гар- і райвыканкома з індывідуальнымі прадпрымальнікамі горада.**

Прычына – ліст ад ГА "Маладзечанскі прадпрымальнік" у Савет Бяспекі, Камітэт дзяржкантролю і Адміністрацыю прэзідэнта. Прадпрымальнікі лічаць, што стасункі паміж імі і "вертыкаллю" носяць непраўавы характар.

На сустрэчы прысутнічалі прадстаўнікі абласнога камітэта па прадпрымальніцтве і інвестыцыях, Дзяржкантроля.

Пасля таго, як выслухалі спрэчныя пытанні, зазначаныя ў лісце, – добраўпарадкаванне горада, рэканструкцыя калгаснага рынку і праблему пустых бутэлек – першы намеснік гарвыканкома **Яфім Ідэльчык** прызнаў, што існуюць пэўныя непаразуменні, і папрасіў прадпрымальнікаў з любымі прыватнымі пытаннямі звяртацца ў гарвыканком. Яны будуць вырашацца ў рабочым парадку. Гарвыканком і раённыя ўлады настроеныя на кампраміс.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 16 жніўня | 23 жніўня |
|---|---|---|
| Долар | 1436,00 руб. | **1441,00** руб. |
| Нямецкая марка | 664,76 руб. | **677,57** руб. |
| Літ | 359,00 руб. | **360,34** руб. |
| Расійскі рубель | 48,95 руб. | **49,10** руб. |
| Злоты | 336,97 руб. | **337,59** руб. |
| ЕЎРА | 1300,15 руб. | **1325,22** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1460 – 1480 руб. | **1460 – 1480** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 15.08 | 22.08 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2400 | 2400 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7980 | 7160 |
| Сасіскі, 1 кг | 3100 | 3100 |
| Селядзец, 1 кг | 1720 | 1720 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 410 | 410 |
| Цукар, 1 кг | 646 | 680 |
| Алей, 1 л | 890 | 980 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 500 | 620 |
| Маянэз, 200 г | 270 | 270 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1600 | 1600 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 520 | 520 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 420 | 450 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 350 | 350 |
| Капуста, 1 кг | 300 | 250 |
| Агуркі, 1 кг | 700 | 650 |
| Памідоры, 1 кг | 650 | 580 |
| Лімоны, 1 кг | 1650 | 1800 |
| Апельсіны, 1 кг | 1600 | 1500 |
| Кавуны, 1 кг | 350 | 500 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Смятана, 1 л | 1200 | 1000 |
| Масла, 1 кг | 2400 | 2600 |
| Тварог, 1 кг | 800 | 800 |
| Малако, 1,5 л | 350 | 400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 900 |
| Бульба, 1 вядро | 1600 | 1400 |
| Морква, 1 кг | 450 | 400 |
| Брусніцы, малое вядро | 4000 | 4000 |
| Слівы, малое вядро | 2000 | 2000 |
| Яблыкі, 1 кг | 200 | 200 |

**[illegible]лькі прадуктаў можна было купіць на сярэднюю зарплату ў 1990 годзе і колькі цяпер (на чэрвень 2001 года)**

| Прадукты | 1990 г. | 2001 г. |
|---|---|---|
| Хлеб аржаны (кг) | 1217 | 285 |
| Хлеб пшанічны (кг) | 581 | 168 |
| Мука пшанічная (кг) | 639 | 239 |
| Макаронныя вырабы (кг) | 427 | 170 |
| Крупы (кг) | 836 | 115 |
| Бульба (кг) | 1786 | 700 |
| Капуста (кг) | 1410 | 174 |
| Морква (кг) | 1117 | 130 |
| Цыбуля (кг) | 671 | 167 |
| Яблыкі (кг) | 446 | 104 |
| Ялавічына (кг) | 130 | 44 |
| Свініна (кг) | 125 | 37 |
| Птушка (кг) | 165 | 48 |
| Кілбасныя вырабы (кг) | 133 | 29 |
| Рыба свежая (кг) | 313 | 50 |
| Яйкі (дзес.) | 26,8 | 14,4 |
| Малако (л) | 1117 | 406 |
| Тварог (кг) | 298 | 88 |
| Смятана (кг) | 223 | 80 |
| Сыр цвёрды (кг) | 100 | 35 |
| Масла (кг) | 78 | 48 |
| Алей (л) | 153 | 88 |
| Тлушч (кг) | 150 | 76 |
| Цукар (кг) | 343 | 192 |
| Чай (кг) | 140 | 15 |

**Сёння на сярэднюю зарплату можна купіць прадуктаў у 1,5–2 раза менш, чым тады на сярэднюю пенсію.**

«Беларускі час».

## Колькі каштуе падрыхтавацца да школы?

**МАЛАДЗЕЧНА. Каб адказаць на гэтае пытанне, карэспандэнты "РГ" прайшліся па найбольш буйных гандлёвых пунктах горада, якія спецыялізуюцца на школьных таварах.**

### Што? Дзе? Колькі?

**У сераду, 15 жніўня**

| Найменне тавараў | ГД «Няміга-Маладзечна» | ГЦ «Елена» | Калгасны рынак | «Дзіцячы свет» | ГД «Вега» | Бел. Макс | Рэчавы рынак | Кошт (мінімальны-максімальны), тыс. руб. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вокладкі для сшыткаў ці кніг | + | – | – | + | + | + | – | Сшыткі 0,014–0,02; Кнігі 0,222–0,380 |
| Спартыўны абутак | + | + | + | + | + | – | + | 4,0–40,0 |
| Дзённік | + | – | + | – | + | + | – | 0,438–0,772 |
| Блок (альбом) для чарчэння (маляв.) | + | + | + | + | + | + | – | 0,25–5,2 |
| Кашуля | + | – | + | + | + | – | + | 3,6–16,0 |
| Касцюм | + | – | + | – | + | – | + | 20,0–76,0 |
| Касцюм спартыўны | + | – | + | + | + | – | + | 9,9–50,0 |
| Набор для чарчэння | + | + | + | + | + | + | – | 2,3–17,0 |
| Пенал | + | + | + | + | + | + | + | 0,4–10 |
| Ранец | + | – | + | + | + | + | + | 5,5–20 |
| Пластылін | + | + | – | – | + | + | – | 0,415–0,9 |
| Сшытак (12 аркушаў, 48, 96) | + | – | + | + | + | + | + | 0,063–0,07 – 12 аркушаў; 0,3–0,4 – 48 аркушаў; 0,55–0,6 – 96 аркушаў |
| Туфлі | + | + | + | + | + | – | + | 4,5–54,6 |
| Фарбы | + | + | – | + | + | + | – | 0,260–4,2 |
| Штаны | + | – | + | + | + | – | + | 14–16,0 |

Каб сабраць чалавека "з адным алоўкам, ручкай і сшыткам", атрымалася лічба 57 тысяч рублёў. Калі скласці максімальныя лічбы, будзе 312 тысяч. Хаця ў нашым спісе ўлічана не ўсё, што патрэбна школьніку.

**Вольга КАСЯКОВА, Юрый КАРПІЦКІ.**

■ РЫНАК ПРАЦЫ

## Вакансій стала менш

**СМАРГОНЬ. На прадпрыемствах і арганізацыях раёна, апрача малых прадпрыемстваў недзяржаўнай формы ўласнасці, занята цяпер 19124 работнікі.**

Гэта 98,3% да мінулага года. За паўгода ў службу занятасці звярнуліся 1980 чалавек. З іх 1513 знайшлі работу. Колькасць вакансій паменшылася на 15% і складае 210 рабочых месцаў.

Дапамогу па беспрацоўі атрымліваюць 646 чалавек. Сярэдні памер – 7636 рублёў. Сярэдняя зарплата ў раёне за чэрвень-ліпень склала 77377 рублёў.

**Павел МАКЛЮК.**

## Запазычанасць у бюджэт

**МАЛАДЗЕЧНА. Прадпрыемствы горада на 1 жніўня недаплацілі падаткаў у бюджэт 428 мільёнаў рублёў.**

Самыя буйныя неплацельшчыкі – ВУП "Камунальнік", "Электрамодуль", завод жалезабетонных вырабаў, "Маладзечналес" і фабрыка музычных інструментаў.

Прычым, большасць з іх, па ацэнцы загадчыка фінансавага аддзела Паліны Вашкевіч, не могуць самастойна расплаціцца з даўгамі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Дом культуры хутка зашкляць

**МАЛАДЗЕЧНА. У верасні на Доме культуры ўстановяць вокны.**

Падрадчык праводзіць тэндэр на закупку вокнаў. На зашкленне Дома культуры пойдзе 120 мільёнаў рублёў.

Як сказаў прараб **Іван Русак**, на Доме культуры цяпер працуюць 160 чалавек (раней было 30–40). Дапамаглі павялічыць колькасць рабочых 500 мільёнаў рублёў, што паступілі з рэзервовага фонду. Але іх асвояць ўжо ў верасні. Што далей – невядома.

У жніўні зрабілі "клубную" частку даху. Цяпер працуюць над "глядацкай" часткай.

Да 1 верасня да ДК правядуць водаправод і цеплатрасу. У наступным месяцы добраўпарадкуюць тэрыторыю з боку Вялікага Гасцінца.

Акрамя ўсяго, будаўнікі праводзяць унутраныя работы: сантэхнічныя, электрамантажныя і аддзелачныя, узмацняюць канструкцыі.

Да Новага года запланавана здаць "клубную" частку Дома культуры.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ «КРУГЛЫ СТОЛ» У РЭДАКЦЫІ «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ»

# Наш выбар — наш лёс,

**Шырокая грамадзянская кааліцыя аб'яднала ў сваіх шэрагах дзесяткі прагрэсіўных палітычных партый і грамадскіх рухаў, многія тысячы адважных людзей, якія думаюць і хварэюць за лёс нашай Радзімы. Яны прапануюць нам сёння выйсце з міжнароднай ізаляцыі, з таго глыбокага эканамічнага і палітычнага крызісу, у які завялі Беларусь тыя, хто па волі выпадку аказаўся ля ўлады ў лёсавызначальным для ўсіх нас 1994 годзе. Хто ў трагічным лістападзе 1996 года ператварыў краіну, якая толькі ступіла на шлях дэмакратычных пераўтварэнняў, у апошні ў Еўропе запаведнік таталітарызму.**

Засталося зусім няшмат часу да таго сапраўды гістарычнага дня, калі мы зможам зрабіць свой выбар: альбо мы па-ранейшым будзем гібець, і на нас будуць працягваць глядзець як на хворае грамадства, альбо мы скажам, нарэшце, сваё рашучае "Не!" і разам з усімі нармальнымі краінамі Еўропы пачнем будаваць сваю дэмакратычную Айчыну.

Мы ведаем, што прагрэсіўныя сілы, якія аб'ядналіся, ужо змаглі дамовіцца і вылучыць са сваіх шэрагаў адзінага кандыдата на вышэйшы дзяржаўны пост краіны. Менавіта ён будзе супрацьстаяць чалавеку, які за 7 доўгіх год не выканаў ніводнага з тых сваіх абяцанняў, якімі шчодра адорваў даверлівых беларусаў у 1994 годзе. Гады яго праўлення былі суцэльным абяцаннем "светлага будучага", якое нам прарочылі і да яго ягоныя камуністычныя папярэднікі на працягу сямідзесяці год. Ці не час нам самім вызначыць свой лёс і ўсім разам пачаць будаваць сваё будучае? Ці не час і нам, "простым людзям", аб'ядноцца і рашыць, нарэшце, простае пытанне: ці хочам мы жыць, як людзі?

Беларускае грамадства намаганнямі дзяржаўных ідэолагаў і прапагандыстаў расколатае. Яно знаходзіцца на галодным інфармацыйным пайку і пазбаўленае магчымасці атрымаць аб'ектыўную дакладную інфармацыю пра тое, што ж у сапраўднасці адбываецца ў краіне. Раздзяляй і пануй! – гэтым прынцыпам тыранаў усіх часоў і народаў кіруюцца сёння і тыя, хто стаіць ля дзяржаўнага руля ў Беларусі. Ім трэба любымі сродкамі захаваць сваю ўладу і прывілеі. Ім няма справы да патрэбаў мільёнаў паўжабрацкіх грамадзянаў краіны. Ці павінныя мы дапамагаць ім у гэтым самазахаванні? Паразважаем разам і дастойна адкажам 9 верасня.

У рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" мы запрасілі некалькі жыхароў Маладзечна. Гэта людзі, якія не знаходзяцца ні ў якіх партыях. Яны з тых, каго большасць. Мы вырашылі пагаварыць з імі адкрыта, шчыра. А тэму гэтай гутаркі вызначылі такія асноўныя пытанні:

**1. Ці вядома вам, што прагрэсіўныя сілы вылучылі адзінага кандыдата на пасаду прэзідэнта, і як вы да гэтага ставіцеся?**

**2. Ці лічыце вы, што нашае жыццё палепшылася за апошнія 7 год або ніякіх змяненняў да лепшага не назіралася?**

**3. Калі ля ўлады застанецца ранейшы прэзідэнт, ці ёсць у вас якія-небудзь надзеі на паляпшэнне жыцця?**

**4. Ці будуць будучыя выбары сумленныя і адкрытыя?**

**5. Ці задавальняе вас узровень, накірунак і якасць інфармацыі, якую сёння атрымлівае грамадства з дзяржаўных і незалежных СМІ?**

**6. Як вы ставіцеся да дзейнасці міжнародных і ўнутраных назіральнікаў за выбарамі?**

Вядома, шматгадзінная гутарка выйшла за рамкі пытанняў, і нам не так лёгка было вызначыць галоўнае ў адказах. Але, як і належыць недзяржаўным журналістам, мы захавалі галоўнае – іх дакладнасць. Прапануючы сёння пераказ гэтай гутаркі, мы хочам спадзявацца, што нашыя чытачы разам са сваімі землякамі падумаюць пра тое, як нам жыць далей.



**Аляксандр Зленка, настаўнік, 49 год.**

## Свае праблемы мы мусім вырашаць самі

1. Вядома, зразумела. Але справа ў тым, што вядома дастаткова мала. Усё, што мы ведаем, мы проста шукаем. А асноўная маса, я сумняваюся, што нешта іх цікавіць у гэтых пытаннях, таму яны атрымліваюць тое, што лёгка да іх прыходзіць.

2. Калі мякка сказаць, то жыццё апошнія гады стаіць на адным узроўні. Чаму я так разважаю? Таму што, усё ж, і пры Савецкім Саюзе мінімум культуры і асветніцтва быў. Проста ў нас ужо закваска такая, што мы выконваем сумленна сваю работу, хаця нам за яе ні капейкі.

3. Калі ля ўлады застанецца цяперашні прэзідэнт? Гэта вялізнейшае пытанне. Ні з Захаду, ні з Усходу ў нас інвестыцыі не будуць, напэўна, паступаць. І ўвогуле, патрэбная свежасць, новы чалавек. Гэты зарэкамендаваў сябе пэўным чынам, таму я сумняваюся, што нейкія будуць паляпшэнні.

4. Давайце падыдзем, як да аднаго чалавека – як да нас дзяржава ставіцца? Яно нас крыху так... Таму ёсць недавер у дачыненні да выбараў. Асноўная маса людзей не верыць уладам. На самым маленькім узроўні, у сябе на рабоце адчуваем шмат што.

5. Інфармацыя ідзе цудоўная. Толькі не ад дзяржаўных СМІ. У нас у кожнага ёсць сем'і, ёсць дзеці, вось на іх мы, як на лакмусавай паперцы, усё бачым. Можна інфармацыю атрымаць яшчэ з аднае крыніцы, гэта называецца БТ. Разумееце, якую. У асноўным інфармацыю мы атрымліваем, толькі калі яе шукаем. Нешта атрымліваем праз Расію. Калі нешта здарылася, то адразу ўключаем НТВ ці "Свабоду", ці яшчэ што. Бо нашыя, па-першае, спачатку каля ды побач будуць гаварыць усё, а што да чаго, так і не зразумееш. Я б сказаў, што масавай інфармацыі мы не атрымліваем. Мы, хутчэй, атрымліваем ідэалогію.

6. Гэта добра, калі нам дапамагаюць, але ўсё ж мы мусім вырашаць пытанні большай часткай самі. А пакуль жа тут менавіта ўхіл на міжнародную дапамогу. Цудоўна, але яны на два дні, на тыдзень, на месяц, і не больш за тое. Нам тут жыць, нам гэта будаваць, нашы дзеці, унукі будуць жыць. Я не супраць міжнародных назіральнікаў, я разумею, што жывем мы ў міжнародным грамадстве, але і мы павінныя таксама больш актыўна працаваць у гэтым напрамку.



**Алег Бяганскі, 32 гады, працуе на заводзе, займаецца грамадскай дзейнасцю.**

## «Домашаўская» загартоўка

1. Да кандыдатуры Ганчарыка стаўлюся станоўча, бо лічу, што гэта найбольш інтэграцыйная фігура ад апазіцыі. Што тычыцца магчымага прэм'ер-міністра Домаша, то заўважу, што ён у сваю бытнасць старшынёй гарвыканкома Ліды вырашыў там вельмі актуальную экалагічную праблему. Менавіта Гродзеншчына лідзіруе ў экалагічных тэхналогіях. Акрамя таго, менавіта ў Гродзенскай вобласці – гэта даволі рэдкі выпадак у Беларусі – адбыліся грамадскія абмеркаванні па праблеме будаўніцтва дамбаў на Нёмане. Напэўна, гэта яшчэ старая, "домашаўская" загартоўка.

2. Нашае жыццё за апошнія сем год можна раздзяліць на два этапы – да 1996-га і пасля. Мяркую па сваёй зарплаце – я ўвесь гэты час працую на заводзе. Да 1996 года пакупная здольнасць павялічвалася, была нейкая перспектыва. Пасля 1996-га года на ўсім гэтым пастаўленая вялікая кропка.

3. Калі ля ўлады застанецца А. Лукашэнка, надзей на лепшае практычна няма. Няма перспектыў – я размаўляю з моладдзю. Увогуле, шмат моладзі, некалькі маіх знаёмых у гадах так і сказалі: «Мы тут жывем да 9 верасня, а потым, калі ён застанецца, мы проста з'едзем адсюль на заробкі ў іншыя краіны». Які настрой можа быць у рабочых? За 6-7 год не куплена, не набыта практычна ніводнага станка, ўсё старое «дабіваецца». Калі Шлындзікаў быў прэзідэнтам нашага канцэрна, мы яшчэ экспартавалі сваю прадукцыю ў Заходнюю Еўропу, Лацінскую Амерыку, Афрыку, Азію, а цяпер усё перакрыта. На Расію, і то з вялікім скрыгатам, па бартэры. Вялікая праблема яшчэ, калі застанецца цяперашні прэзідэнт, і надалей будуць співацца людзі. Пачалі піць тыя, хто раней і не датыкаўся да чаркі. Калі застанецца прэзідэнт, то не застанеццца анічога ў Белавежскай пушчы і іншых запаведніках, дзе поўным ходам ідзе вырубка лесу.

4. Вось і эколагаў ніводнага чалавека не ўключылі ў выбарчую ўчастковую камісію. Наўрад ці выбары будуць адкрытыя.

5. Узровень інфармацыі ў незалежных сродках масавай інфармацыі мяне задавальняе. Адзінае, каб тыражы паболей. Што тычыцца дзяржаўных, то пра што можна гаварыць, калі каля трох тыдняў да выбараў засталося, а людзі не ведаюць усіх кандыдатаў у прэзідэнты. Аднаго толькі.

6. Асноўны цяжар работы, натуральна, мусіць быць на ўнутраных назіральніках. Але і міжнародныя, зразумела, павінныя быць і зрабіць нейкія высновы. Калі ж Лукашэнка гаворыць пра 14000 «баевікоў", што прыедуць на выбары, значыць, я таксама баявік.



**Эдвард Баланчук, старшыня Маладзечанскага аддзялення беларускага Хельсінкскага камітэта па правах чалавека.**

## Хацеў бы ўсіх расчараваць

1. Я з Ганчарыкам меў сустрэчу і размову па Маладзечне. Асабіста я лічу вылучэнне Ганчарыка правільным, бо ў адзінстве – сіла. Але на маю думку, спадар Ганчарык ужо ў гадах – яму 61. А з іншага боку, бывае малады і надта гарачы, і не азіраецца назад – што ён робіць.

2. Я не лічу, што нашае жыццё стала лепшае за гэтыя апошнія сем гадоў кіраўніцтва дзеючага "правіцеля". Заработкі людзей невялікія, і мы па сваёй прыёмнай гэта бачым. Прыходзяць па юрыдычную кансультацыю ці парушаюцца іх правы – прыкладам, гэта і завод "Спадарожнік", там дзе было масавае скарачэнне. Ёсць іншыя прадпрыемствы ў горадзе, дзе людзей прымушаюць працаваць і па суботах, толькі адзін дзень – нядзеля – выхадны. На станказаводзе людзей без загаду вымушаюць выходзіць на работу, працаваць і ў суботу, і ў нядзелю. Плацяць, як за звычайны дзень. Справа яшчэ і ў тым, што людзі баяцца даваць інфармацыю. Не толькі што жыццё стала горшае, але яно стала цяжкае, і людзі палохаюцца, іх апаноўвае страх, яны не хочуць нічога гаварыць. Маўляў, мая хата з краю, нічога не знаю.

3. Як праваабаронца, лічу апошнія два гады, якія наш "правіцель" дадаў сабе пасля рэферэндуму, цалкам нелігітымнымі. Я быў назіральнікам на рэферэндуме. Я бачыў, як рабіўся гэты падлік галасоў. Там зрабілі ўсё за гадзіну і вывелі тыя патрэбныя ўладзе лічбы.

Сённяшні кіраўнік дзяржавы выпускае дэкрэты, распараджэнні, указы і з гэтага жывуць усе астатнія нашыя грамадзяне. Калі ён застанецца, няма спадзяванняў, што дэкрэты і ўказы не будуць мець дамінуючую ролю ў нашай краіне на наступныя 5 гадоў. Дэкрэтны час будзе зноўку.

4. Што тычыцца таго, ці будуць выбары дэмакратычныя і сумленна-празрыстыя, то, **на вялікі жаль, я хацеў бы расчараваць усіх прысутных. На жаль,** улада, я маю на ўвазе гарадскія і раённыя саветы, выканкомы, не ўключаюць ў склад камісій прадстаўнікоў палітычных партый, грамадскіх арганізацый. Прыкладам, мы сумесна з палітычнымі партыямі і іншымі грамадскімі арганізацыямі "перакрылі" ўсе 34 участкі Маладзечна – падалі дакументы, згодна з законам, у гарвыканком, райвыканком і ў Саветы дэпутатаў, каб нашых людзей уключылі ў склад камісій. З 34 чалавек уключылі толькі чатырох – з аб'яднанай грамадзянскай партыі. Не ўключылі ў склад тэрытарыяльных камісій былога кандыдата ў Палату прадстаўнікоў юрыста **Зубрыцкага**, выкладчыка правазнаўства з каледжа **Емяльяненку**. Мы вылучалі **Сіроту**, які быў у 1994 годзе старшынёй камісіі па выбарах прэзідэнта, шмат якіх вядомых людзей, і ніводнага чалавека ад нас не ўключылі ў склад тэрытарыяльнай камісіі. Хаця ў законе адзначна напісана, што ўчастковая і тэрытарыяльная камісіі фарміруюцца з прадстаўнікоў палітычных партый, грамадскіх арганізацый, працоўных калектываў і шляхам збору подпісаў. Тыя ж людзі, што ўвайшлі ў склад тэрытарыяльнай камісіі і ўчастковых, у раённы і гарадскі Саветы дэпутатаў заявы не прынеслі (толькі ў выканкомы). Як яны маглі фарміраваць склад камісіі, калі там не было заяў? Атрымліваецца, што яны гэта сумесна робяць? Вось адсюль і вынікае, што выбары будуць несумленныя, непразрыстыя і недэмакратычныя. Мы падавалі скаргі і ў суды. На гэтым тыдні адтуль адказалі, што гэтыя справы непадведамасныя суду. Вынікае, у нас суды не могуць займацца парушэннямі з боку дзеючай улады. Спадзяюся, мы назіральнікаў выставім на кожны выбарчы ўчастак. Будуць яны лічыць, колькі людзей прыйшло. Апошнім часам наша тэлебачанне ў агрэсіўнай форме выказваецца супраць паралельнага падліку. Але справа ў тым, што мы не збіраемся выходзіць на вуліцу і апытваць, хто за каго галасаваў. Нашыя назіральнікі размяшчаюцца так, каб была відаць скрынка для галасавання: прыйшоў чалавек, якому мусяць выдаць адзін бюлетэнь для галасавання, паставілі кропачку. Потым падлічваем, колькі прыйшло па нашых назіраннях і колькі налічыла ўчастковая камісія.

Я вельмі станоўча стаўлюся да таго, калі чалавек прыходзіць і гаворыць: "Я [illegible] назіраць." Цяпер, праўда, калі ты хочаш назіраць, ты павінен быць сябрам нейкай арганізацыі. І цяпер мы вымушаныя людзей прымаць у свае сябры, а потым ужо накіроўваць на гэты ўчастак па назіранні.

5. Інфармацыю, што атрымліваем з Беларускага тэлебачання, назаву жахлівым відовішчам. Гэта проста жудасна, калі паказваюць твар чалавека, выступае нейкі палітык, а за яго Зімоўскі ці Казіятка расказваюць нешта. На расійскім тэлебачанні кожнаму палітыку даюць выказацца. Што ён лічыць наконт таго альбо іншага. У нас жа ўсё наадварот – паказваюць чалавека і абліваюць яго брудам. На мой погляд, як праваабаронцы, гэта вельмі і вельмі дрэнна.

Калі б незалежная прэса нешта не тое пісала, то – пры сённяшніх умовах – зачыніць любую недзяржаўную газету вельмі проста. Таму лічу, што яны за сваю інфармацыю адказваюць.

6. Міжнародныя назіральнікі, лічу, павінныя прыехаць сюды да нас, паглядзець і запытацца, у прыватнасці, у нашых наглядальнікаў, як апытваць, як працаваць, як збіраць інфармацыю, як што. Толькі сумесная праца можа нешта зрабіць.

А тое, што яны прыйдуць на выбарчы ўчастак там, на пятнаццаць хвілін ці на дзесяць? Ну, паглядзелі: кветкі, музыка грае, буфет, гарэлку прадаюць – усё як быццам бы выдатна. Але фальсіфікацыю можна зрабіць за пяць хвілін. Выйшаў, кінуў, а там – дапішы, распішыся і ўсё. І датэрміновае галасаванне. Зразумела, чаму яны не ўключылі нашых людзей – калі наш чалавек увойдзе ў склад камісіі, ён возьме кожны бюлетэнь і паставіць свой подпіс. І тады калі ласка – прыходзьце хоць за два тыдні на датэрміновае галасаванне. На гэтым бюлетэні няма подпісу назіральніка? Ён адразу піша заяву ў пракуратуру. Вось яны і пабаяліся. Рэжым баіцца, што выбары прыйдзецца фальсіфікаваць, а назіральнікі гэта ўсё заўважаць.

# будучыня нашых дзяцей



**Яшчэ адным госцем рэдакцыі быў мінскі журналіст Юрый Тапарашаў. Ён з'яўляецца экспертам Цэнтра прававой абароны СМІ пры Беларускай Асацыяцыі журналістаў, і яму дакладна вядома, у якіх умовах даводзіцца працаваць беларускім незалежным журналістам.**

## Няможна падтрымліваць цяперашнюю ўладу

Пошук праўды заўсёды і усюль быў цяжкай і небяспечнай справай. Дзесяткі і сотні журналістаў ва ўсім свеце пераследуюцца за сваю дзейнасць у імя грамадскіх інтарэсаў. Яны, як салдаты на вайне, гінуць, сядзяць у турмах, пакідаюць свае краіны, ратуючыся ад выкрытых імі ўладароў.

На жаль, гэты лёс не бышоў і беларускіх незалежных журналістаў. Многія з іх паспыталі на сабе ганенні і пераследаванні ўладаў, выклікі і запалохванне ў "кампетэнтных органах", адлучэнне ад прафесіі. Цяперашняя ўлада робіць усё для таго, каб незалежныя газеты дэмакратычнага напрамку замоўклі. Рэдакцыі прыцягваюць па надуманых прычынах да суда, абкладаюць непасільнымі штрафамі, спаганяюць вялізныя падаткі і плацяжы. А вось цяпер, на парозе выбараў, проста грамяць і арыштоўваюць аргтэхніку.

Ужо больш за год мы не ведаем пра лёс нашага калегі **Дзмітрыя Завадскага**.

Ці можам мы ў такіх умовах падтрымліваць ранейшую ўладу? Адказ адназначны: не, не і не!

Мы, дэмакратычныя журналісты, не хаваем, што за карэнныя перамены ў жыцці краіны. Яны могуць пачацца толькі з прыходам новых людзей ва ўладу.

Мы безумоўна за дэмакратычныя пераўтварэнні, якія дазволяць свабодна гаварыць — без страху і апаскі.

Нам надакучыла бясконцая барацьба за нашыя правы. Чаму мы павінныя адстойваць тое, што нам ужо гарантаванае Канстытуцыяй і іншымі законамі? Гэта справа дзяржавы — абараняць нашыя правы. А замест гэтага мы вось ужо 7 год пераконваем гэтую дзяржаву і яе чыноўнікаў, што трэба жыць па Законе. Чаму Галоўны гарант Канстытуцыі не закліча сваіх чыноўнікаў да строгага адказу за беззаконне, якое яны чыняць? Адказ просты: таму, што яны яму служаць і выконваюць яго ўказанні.

Як журналіст, я вельмі пакрыўджаны на ранейшага прэзідэнта, які абяцаў мне ў 1994 годзе свабоду творчасці і абарону ад чыноўнікаў. Таму другі раз галасаваць за яго не буду.

Як грамадзянін гэтай краіны, я ўпэўнены ў тым, што працяг таго шляху, па якім мы ішлі гэтыя 7 год, — гэта дарога ў Нікуды, у гістарычны тупік. У народа, які вядуць такія гора-кіраўнікі, няма шанцаў палепшыць сваё жыццё, вырвацца з міжнароднай ізаляцыі, захаваць сваю незалежнасць і самабытную культуру. Я буду галасаваць за новых людзей. Сёння гэтая задача для мяне значна прасцейшая: ёсць адзіны кандыдат ад прагрэсіўных сіл краіны. З ім я і звязваю свае надзеі.



**Ніна Лагода, Вілейка, дамашняя гаспадыня і беспрацоўная. Хаця, у прынцыпе, гэта адно і тое ж. 44 гады.**

## У 1994 годзе галасавалі супраць Кебіча

1. Я да адзінага кандыдата стаўлюся станоўча. Таму што існаванне двух кандыдатаў гэта ўжо дае нейкую надзею на тое, што, магчыма, іншы прэзідэнт будзе. І выбары ў 1994 годзе — галасавалі ж не за Лукашэнку, галасавалі — асабліва ў першым туры — супраць **Пазняка**. Хаця мне Ганчарык не вельмі імпануе, але ж лепей нешта, чым нічога. У мяне была размова з Казлоўскім, Домашам і, так, выпадкова, з Ганчарыкам. З усіх іх мне самым прафесійным падаўся Казлоўскі. Вось ён прафесійна гаварыў пра ўсё, і прычым аб раздзяленні ўлады. У яго пытанне гэтае было амаль на першым месцы.

2. За апошнія сем год жыццё пагоршылася, і вельмі нашмат. І маральна, і матэрыяльна. Пакаленне, што да трыццаці, вельмі пацярпела маральна. Людзі не бачаць нічога ўперадзе, заціснутыя безвыходнасцю. Лепш стала, напэўна, таму пакаленню, якое прывыкла да "стабільнасці", гарантаванага мізэрнага кавалка — старэйшым. Ім патрэбны нейкі спакой, для іх няма раздзялення ў грамадстве. Хаця катаклізмы пэўныя адбываюцца, для іх гэта маральна цяжка прымаць. Так, прыкладам, як раздзяленне Саюза.

І яшчэ. Вось я заўважыла, асабліва гэта ў правінцыі адчуваецца, народ знаходзіцца ці ў летаргічным, чыста маральна, ці ў п'яным сне. Калі мець вялікую колькасць грамадскіх арганізацый, людзі будуць неяк адыходзіць ад "сну". Усё ўпіраецца на адсутнасць інфармацыі — вельмі вялікі прабел на гэты момант. Людзі практычна нічога не ведаюць.

У мяне ў пад'ездзе п'е жанчына. Я ўяе пытаюся: "Чаму ты п'еш?", яна кажа: "Я ад раніцы выпіла — цэлы дзень свабодная, у мяне няма ніякіх праблемаў." Вось у чым праблема.

3. Калі ля ўлады застанецца ранейшы прэзідэнт, то я не веру ў паляпшэнне. Каб ён акружыў сябе прафесіяналамі, магчыма, былі б нейкія змены. У нас уся бяда — няма прафесіяналізму. Кіраўніцтва ручное, парламент ручны. Ну, пра што тут казаць? Справа не ў адным чалавеку, а ў тых, хто яго акружае, хто яго каманда. Прыкладам, аб'яднанай апазіцыі ўжо сёння трэба думаць пра каманду, якая будзе заўтра. А. Лукашэнка — вы паглядзіце — увесь час вядзе селекцыю.

4. Калі меркаваць па перадвыбарнай кампаніі, выбары несумленныя будуць. Таму што А. Лукашэнку, мы разумеем, карціць яшчэ пакіраваць краінай і трэба пацвердзіць сваю легітымнасць перад знешнім светам. І ён будзе любымі шляхамі гэта рабіць. Чыста тэхнічныя сродкі пойдуць у ход. Для некаторых назіральнікаў яны будуць чыстыя, як бы сумленныя. Калі прыйшоў, паглядзеў — усё, здаецца, робіцца сумленна.

5. Дзяржаўныя выданні я чытаю. Яны недзе на ўзроўні "жоўтай прэсы", шчыра кажучы. Як "бэтэшная" перадача **Азаронка**. Разумееце, нават мой сын, яму 13 год, і тое, яго гэта не тое, што абурае, але нейкую выклікае абсурднасць. Недзяржаўныя — не ўсе, але мяне задавальняюць. Інфармацыя сумленная, праўдзівая і аб'ектыўная. Праўда, асабіста мне не зусім падабаецца, што выкладаецца толькі інфармацыя, але няма ніякага аналізу. Хаця рабіць аналіз недзяржаўнай прэсе, я лічу, на сёння вельмі небяспечна, бо можна трапіць у апалу. Але аналізаваць трэба.

У любой прагрэсіўнай дзяржаве аб прагрэсіўнасці і дэмакратычнасці гаворыць наяўнасць грамадскіх арганізацый. Яны ў нас у Беларусі ёсць, але ніякія дзяржаўныя СМІ пра іх не гавораць. Мне хацелася б, каб па магчымасці, усе недзяржаўныя выданні пра гэта пісалі. Ёсць жаночыя рухі, ёсць. Я вось асабіста не ведала, выпадкова трапіла на семінар у Вілейцы, аказалася, што ёсць жаночы рух "БЖА" — "Беларускі жаночы альянс".

6. Я нармальна стаўлюся да дзейнасці міжнародных і ўнутраных назіральнікаў за выбарамі. Хаця замежныя не ведаюць усіх нюансаў. Хутчэй за ўсё, трэба было, каб яны прыехалі ад пачатку перадвыбарнай кампаніі. Доўгатэрміновае назіранне АБСЕ заўсёды пачынае праводзіць за 6 тыдняў да пачатку выбарнай кампаніі. А наша ўлада зрабіла ўсё, каб гэты тэрмін як мага болей сціснуць, і асноўныя мерапрыемствы былі праведзеныя ў адсутнасць міжнародных назіральнікаў. Гэта значыць, сфарміраваныя камісіі, прайшоў сбор подпісаў, зацвярджэнне людзей, разгляд тых подпісаў — асноўныя мерапрыемствы. Улада прапануе: "Вось, няхай прыедуць у дзень выбараў, паглядзяць, як у нас усё цудоўна і добра выбары ідуць." Але, згодна з многімі міжнароднымі дакументамі, дзень выбараў не з'яўляецца паказальнікам дэмакратычнасці, легітымнасці і празрыстасці выбараў. Самае галоўнае — гэта папярэдняе, доўгатэрміновае назіранне.

Не маюць рацыі тыя, хто кажа, што вось на парламенцкіх выбарах міжнародныя назіральнікі нічога не ўбачылі. Яны ўсё ўбачылі, як вы ведаеце. Нават тая тэхнічная была місія АБСЕ, якая праводзіла такую дзейнасць па парламенцкіх выбарах.



**Віктар Уласенка. 63 гады, пенсіянер, дэпутат Вярхоўнага Савета XII склікання: "Пенсіянер я працоўны — гэта заўвага да таго, што ў Вярхоўнага Савета былі некалькі іншыя законныя пенсіі ў бытнасць Чыгіра прэм'ерам. Вусным распараджэннем выплату гэтай пенсіі забаранілі, і я атрымліваю сваю заводскую пенсію і па сённяшні дзень".**

## У грамадстве пануе агрэсія

1. Мне асабіста адзіны кандыдат не надта сімпатычны. Я з ім знаёмы. Я наогул падазрона стаўлюся да людзей нізкага росту на высокіх абцасах. Ён вельмі разумны, вельмі жорсткі, але і вельмі вялікі, па-мойму, аматар улады. У свой час я ўдзельнічаў у многіх спрэчках з ім, калі рыхтаваўся закон аб прафсаюзах. У той час правы прафсаюзам яны патрабавалі болей, чым некалі мелі, прыкладам, абкомы партыі. Я беспартыйны быў, таму ў мяне такое стаўленне. Баюся, прага ўлады — гэта не зусім тое, што выгадна для мяне як жыхара рэспублікі — і абывацеля, і грамадзяніна.

2. Жыццё за апошнія сем год, магчыма, стабілізавалася ў нейкай меры. Хаця я не магу сказаць, што яно палепшылася. Рост пенсіі закрываецца ростам цэнаў, якія яшчэ і апярэджваюць даходы. Мне замінае ў многім жыць нашая бюракратыя. Вось я, напрыклад, не магу атрымліваць поўную сваю пенсію, у мяне каэфіцыент 2,64, калі я буду працаваць. Хаця я зарабіў гэтую пенсію шмат-шмат год таму. У мяне растуць унукі, і мяне непакоіць, як яны будуць вучыцца, таму што вучыцца нават бясплатна стала вельмі складана. Як яны будуць далей жыць?

3. Калі ля ўлады застанецца ранейшы прэзідэнт, не ўпэўнены, што будзе паляпшэнне жыцця. Я бачу масу памылак у прэзідэнта, нават, можа быць, і болей. І я калісьці не быў яго прыхільнікам, але, магчыма, у той сітуацыі, з тых прэтэндэнтаў гэта не самы горшы выбар. Ва ўсялякім выпадку, наколькі я яго ведаю, ён таксама любіць уладу, таму ён наўрад ці сам адмовіцца ад гэтай улады. Яго тэмперамент і выхаванне робяць вельмі шмат шкоднага і для рэспублікі і для жыхароў. І наогул, у мяне такое, магчыма, не зусім правільнае меркаванне, што ля ўлады самыя страшныя людзі. Гэта, як казаў Шушкевіч, "навукоўцы", для іх галоўнае — эксперымент. А станоўчы вынік эксперыменту ці адмоўны, не мае значэння — гэта ж усё адно вынік. І людзі, якія знізу, сталі на высокую прыступку. Яны не адчуваюць цаны словам ці дзеянням. Вось калі на маім узроўні, рабочага, я магу дараваць, а кагосьці кудысьці адправіць, то ўжо на ўзроўні дырэктара завода, хоць гэта і распаўсюджана, так рабіць нельга. На ўзроўні прэзідэнта гэта ні ў якім разе недапушчальна, таму кожнае слова павінна адчуваць сваю вялікую цану. Вось прэзідэнт гэтай цаны свайму слову часта не адчувае, таму я не спадзяюся на вялікія паляпшэнні ў жыцці.

4. Пытанне пра сумленнасць і адкрытасць выбараў, з майго пункту гледжання, не зусім карэктнае. Я пра сябе кажу, прабачце. Калі я падазраю, што вы будзеце махлярнічаць, то, значыць, я дапускаю для сябе магчымасць махлярнічаць самому. Дам такі, непрамы, адказ.

5. Узровень і накіраванне інфармацыі не толькі мяне, усіх маіх знаёмых ніяк не задавальняе. Мяне, напрыклад, абурае агрэсіўнасць інфармацыі і дзяржаўных выданняў, і недзяржаўных. Я мог бы прывесці масу прыкладаў, калі гэтая агрэсіўнасць даходзіць да непрыстойнасці. У прыватнасці, і выразы прэзідэнта па тэлевізары пра Машэраву і, між іншым, дастаткова дэмакратычнай газеты «День», пра вылучэнне той жа Машэравай у кандыдаты. Там, прабачце за выраз, яна адбівае чачотку на труне бацькі. Можа, я проста стары, не разумею сённяшніх выразаў, але не задавальняе мяне гэта ні ў якім разе.

6. Міжнародныя і ўнутраныя назіральнікі за выбарамі патрэбныя, але з вялікай «папраўкай». Асабіста ў мяне былі сустрэчы з міжнароднымі назіральнікамі на выбарах у Таджыкістане. Калі былі выбары іхняга цяперашняга прэзідэнта, калі толькі-толькі скончылася вайна. І з Беларусі, напэўна, назіральнікам быў толькі я адзін, бо людзі, якім прапаноўвалі паехаць, пабаяліся — вайна. Я не ўпэўнены ў аб'ектыўнасці многіх міжнародных назіральнікаў, — кажу пра тое, што я назіраў. Прыкладам, са мною гаварылі пасля паездкі па выбарчых пунктах. Размова была такая: «Вы хочаце сказаць, што ўсё было добра?» У той час, калі я быў дэпутатам, такія самыя размовы меў і з не нашымі карэспандэнтамі. І наперад абгавораны, у прыватнасці са «Свабодай», па радыё. Дык вось, мне прапануюць тэму, але пытанне задаецца такім чынам, што я мушу адказаць так, як трэба таму, хто пытаецца. І вельмі цяжка было ўтрымацца на сваім пункце погляду. Ці само пытанне прадвызначала адказ. Я не хачу сказаць, што ўсе так дзейнічаюць, я хачу сказаць, што ў 1994 годзе, канкрэтна ў Душанбэ і там, дзе я быў з АБСЕ, назіральнікі і карэспандэнтка нейкай амерыканскай газеты вялі асабіста са мной размову менавіта ў такім стылі. У мяне насцярожанае стаўленне да гэтай справы. Я лічу, што свой лёс мы павінныя вырашаць самі.



**Юрый Карпіцкі, 22 гады, карэспандэнт "Рэгіянальнай газеты".**

## Хацелася б працаваць у роўных умовах

1. Натуральна, я ведаю пра адзінага кандыдата. Лічу, што добра наогул, што ёсць кандыдат адзіны, кім бы ён ні быў — гэта ўжо іншае пытанне — але, на мой погляд, гэта добра.

2. Калі выбіралі першага прэзідэнта, мне было толькі 15, але, калі меркаваць па маіх бацьках і з цяперашняга журналісцкага досведу, лічу, што паляпшэнняў вялікіх не было. Праблемы ж існуюць. Папершае, прамысловасць за апошні час моцна здала і ў Беларусі засталося вельмі мала канкурэнтаздольнай на міжнародных рынках прадукцыі. Па-другое, заўважаюць, што замежных інвестыцый у нас зусім няма. Па-трэцяе, стаўленне да Беларусі такое, што мы на самой справе знаходзімся ў нейкай ізаляцыі. І, калі меркаваць па людзях, знікла станоўчая атмасфера, што была ў 1994 годзе. Тады была надзея: толькі што абраны прэзідэнт, сышла "эпоха Кебіча", быў аптымізм у жыцці, а цяпер у людзей вельмі моцна развіты песімізм.

3. Калі ля ўлады застанецца ранейшы прэзідэнт, абсалютна не спадзяюся, што будзе лепей. Цяперашнія меры, якія прымаюцца ў эканоміцы па павышэнні зарплаты, вядуць да абвалу эканомікі. Яна не вытрымае яшчэ пяць год такога кіравання. Але гэта таксама маё асабістае меркаванне.

4. Хацелася б спадзявацца, што выбары будуць сумленныя і адкрытыя, але, шчыра кажучы, некалькі цяжка адказваць на гэтае пытанне. Падчас выбараў у Палату прадстаўнікоў пытанні былі.

5. Наконт якасці інфармацыі, заўважу, што пытанне ў дачыненні да мяне не зусім карэктнае. Хаця б таму, што я прадстаўляю адзін з бакоў. Мне складана гаварыць. Адзінае: хацелася б працаваць ва ўмовах, калі дзяржаўныя і недзяржаўныя газеты знаходзіліся б у абсалютна роўных умовах. Каб не было розных тарыфаў і ўсіх гэтых спраў, якія ў нас тут цяпер існуюць.

6. Ну, калі будуць назіральнікі міжнародныя і ўнутраныя, то ёсць шанец, што магчымыя высілкі на фальсіфікацыю будуць выкрытыя. Назіральнікі — таксама паказальнік таго, што ў нас у ёсць рысы дэмакратычнай дзяржавы.

**Матэрыялы «круглага стала» падрыхтаваў да друку журналіст Георгій ЛІСОЎСКІ.**

